ПУЛЬС

## Самалётны парк «Белавія» папоўніўся новым самалётам — «Боінг 737-800»

У рамках тэхнічнага пераўзбраення Нацыянальнай авіякампаніі "Белавія" парк паветраных суднаў Беларусі папоўніўся новым самалётам "Боінг 737-800". Пра гэта БелаПАН паведамілі ў прэс-службе Дзяржаўнага камітэта па авіяцыі.

Паводле слоў прадстаўніка камітэта, новы авіялайнер прыбыў з ЗША і зараз знаходзіцца на стаянцы Нацыянальнага аэрапорта "Мінск", дзе праходзіць неабходныя мытныя і сертыфікацыйныя працэдуры. Нейкія дадатковыя падрабязнасці, звязаныя з тэхнічным апісаннем новага лайнера, фінансавымі затратамі, а таксама яго плануемымі маршрутамі, ні ў Дзяржкамавіяцыі, ні ў авіякампаніі "Белавія" не паведамляюць.

Згодна з авіяцыйным даведнікам, "Boeing 737-800" з'яўляецца пасажырскім самалётам для авіяліній малой і сярэдняй працягласці. Крэйсерская хуткасць — 925 км/г, умяшчальнасць — 180—200 пасажыраў (у кабіне двух класаў). Далёкасць палёту з пасажырамі і багажом (з рэзервамі паліва) складае 5370 км. Арыенціровачны кошт "Боінга 737-800" у базавай камплектацыі дасягае 60 мільёнаў долараў ЗША.

**БелаПАН.**

## У Казані адкрылася першая ў Татарстане Нацыянальная выстава Беларусі

Прадукцыя больш як 100 прадпрыемстваў розных галінаў эканомікі дэманструецца на Нацыянальнай выставе Беларусі, якая адкрылася ў Казані на плошчах ААТ "Казанскі кірмаш".

Экспазіцыя, агульная плошча якой 2 тыс. кв. метраў, умоўна дзеліцца на 9 тэматычных блокаў. Кожны блок — гэта галіна эканомікі, прадстаўленая прадпрыемствамі, якія ўваходзяць у склад адпаведных міністэрстваў і канцэрнаў.

Нацыянальная выстава Беларусі ў Казані будзе доўжыцца да 17 верасня.

**Ірына САЗАНОВІЧ.**

## Прыедуць пажарныя з 19 краін

Каманды з 19 краін возьмуць удзел у II чэмпіянаце свету сярод пажарных і ратавальнікаў, які пройдзе ў Мінску 24—26 верасня. Ён арганізуецца пад эгідай Міжнароднай спартыўнай федэрацыі пажарных і ратавальнікаў, МНС Рэспублікі Беларусь і Беларускай федэрацыі пажарна-ратавальнага спорту.

У першынстве свету возьмуць удзел каля 200 спартсменаў з Азербайджана, Аўстрыі, Беларусі, Венгрыі, Германіі, Ірана, Казахстана, Кітая, Латвіі, Літвы, Манголіі, Непала, Польшчы, Расіі, Славакіі, Узбекістана, Украіны, Чэхіі і Эстоніі.

На працягу трох дзён будуць праведзены спаборніцтвы па чатырох дысцыплінах пажарна-ратавальнага спорту: пераадоленні 100-метровай паласы з перашкодамі, пад'ёму па штурмавой лесвіцы на 4-ы паверх вучэбнай вежы, пажарная эстафета і баявое разгортванне. Па выніках гэтых дысцыплін вызначацца пераможцы і прызёры ў агульнакамандным заліку.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

## Выгадны заказ з Кітая

Выгадны заказ на вытворчасць і пастаўку ў Кітай прэсаў атрымала пінскае прадпрыемства "Кузлітмаш". Заказчык — кітайскі завод па вытворчасці сталовых прыбораў у Сучжоу. Яго кіраўніцтва зараз будуе другое прадпрыемства, у Шанхаі, дзе і плануецца ўстанавіць пінскія прэсы для вырабу сталовых прыбораў.

Заказаць абсталяванне ў Беларусі кітайскія бізнесмены вырашылі пасля агляду аднаго з прадпрыемстваў Іспаніі, якое ўжо выкарыстоўвае ў сваёй вытворчасці прадукцыю "Кузлітмаша". Менш як за 10 месяцаў у Пінску зроблена дзевяць прэсаў для вырабу сталовых прыбораў, якія адправяцца ў Кітай у канцы верасня. Кошт партыі — 500 тысяч долараў ЗША.

**Алег СТАЦЭНЯ.**

## Шэсць новых рэзідэнтаў

Конкурсная камісія свабоднай эканамічнай зоны (СЭЗ) "Брэст" ухваліла інвестыцыйныя праекты шасці прадпрыемстваў.

Як паведаміў БелаПАН кіраўнік адміністрацыі СЭЗ Мікалай Крывецкі, мяркуемы сумарны аб'ём інвестыцый перавысіць 9 мільёнаў долараў ЗША. "Адзін з самых прывабных новых праектаў — гэта прапанова замежнага прадпрыемства з італьянскім капіталам "Белбіалецці-Брэст" арганізаваць вытворчасць кавварак, а таксама выпуск патэльняў, каструль і іншага посуду для кухні з антыпрыгаркавым пакрыццём, якая ў нашай краіне не вырабляецца. У рэалізацыю гэтага праекта італьянцы збіраюцца інвесціраваць больш за 3,5 млн. долараў. Плануецца, што 90 працэнтаў прадукцыі будзе адпраўляцца на экспарт", — сказаў М.Крывецкі.

**Ларыса ШЫГАНАВА.**



*Урок фізкультуры ў парку.*

**Фота photo.bymedia.net**

АВТОРСКОЕ

*Анатолий ЛЕБЕДЬКО*

# Победителей не назначают!

1995 год.

Выборы в Верховный Совет 13-го созыва.

Президент взывает к бойкоту: *"Не ходите, все равно обманут"*.

Народ посылает президента. Не словами, ногами.

В награду ослушавшаяся страна получает, можно сказать, последний парламент, избранный избирателями.

Но музыка закона и справедливости играла недолго. Верховный Совет, выбранный против воли хозяина "Красного дома", был обречен. Через год парламентскую ветвь власти обрубили. Конституцию приколотили на стенку туалета. Президент стал правителем.

2000 год. Избирательная кампания в так называемую Палату представителей. Ощущение бессмысленности и безысходности. Уже оппозиция зовет страну на бойкот. Есть мнение, что в 40% округов выборы провалились. Однако не составило труда поднять цифры за 70%.

Вначале у страны украли парламентаризм, потом у народа конфисковали право выбирать. Им оставили возможность приходить на участки, получать бюллетень и даже ставить в них птички. Но их голосом распоряжаются другие.

Белорусский режим создал самую большую избирательную пирамиду в Европе. Кидают многих. Но чтобы обманутыми оставались миллионы, случай уникальный.

2004 год. Выборы состоятся 17 октября. "Красный дом" уже в июле начал назначать депутатов следующего созыва. У насосавшихся власти такой же отменный аппетит, как и четыре года назад. Их вполне устраивает Палата представителей, выполняющая функции отдела администрации Лукашенко. Им хочется, чтобы по-прежнему в стране существовал бесконтрольный "теневой" бюджет. В их интересах, чтобы послушная Палата молчаливо штамповала законы. В парламенте не нужны люди, чья позиция расходится с официальной точкой зрения. Есть спрос на тех, кто стоит на полусогнутых ногах.

На этот раз власть заранее все продумала. Обида стучит в сердце вождя. Его, мне кажется, будоражит, что взбунтовались и вышли из подчинения те, кто прошел по его же списку в 2000 году. И если бы Фролова поддержали не три с половиной депутата, а десятка два, то у врачей "Красного дома" работы было бы неизмеримо больше.

Как свидетельствуют источники, состоялось несколько стадий отбора и фильтрации будущих палатников. Общеизвестно, что по количеству циников и мерзавцев на тысячу человек Беларусь занимает ведущие позиции на европейском континенте. Так что конкуренция была нешуточной. Придворные кланы, региональные группы, отдельные особи остервенело толкались в узком проходе скрываемого списка.

Каждый претендент на депутатское место прошел многоступенчатую фильтрацию. Представители разных структур должны были оценить кандидата в соответствии с выработанными критериями. Какими? Во-первых, он должен быть лоялен и предан правителю до самых кончиков волос. Во-вторых, у него не должно быть рук и совести без пятен. Наличие компромата обязательно. Без этого депутат может стать неуправляемым. В-третьих, он непременно должен быть послушным, но не шибко умным. Логично! На фоне косноязычных, малоубедительных депутатов правитель должен смотреться интеллектуалом и умницей.

Вероятнее всего, изучались не только анкеты и справки о благонадежности. Фильтровщики наблюдали кандидатов по месту работы. А кое-кого даже посещали на дому. Особое умиление вызывал интерьер квартир, украшенных фотографией одного человека. Видимо, не случайно одна молодежная организация рекомендует прикладывать ее к болевым точкам и болезненным местам. Говорят, помогает.

Параллельно определено, что делать со списком от гражданской инициативы **"5+"**. Жестко поставлен вопрос о нерегистрации известных оппозиционеров. Склонен предположить, что за это отвечает тов. Шейман. Так уж повелось, самая грязная работа непременно достается Виктору Владимировичу. Есть рекомендация пропустить в Палату местных жириновцев и, возможно, кого-то из оппозиции. Считается, что в минимальных дозах это безболезненно. Они же и выполнят функцию жертвоприношения для международного сообщества.

Идет беспрецедентная кампания по дискредитации оппонентов режима. Дано указание не стесняться в методах и формах. Десятки, сотни тысяч долларов выделяются на производство грязных телесериалов. Страну стараются утопить в паводке лжи и фальсификаций.

За нас уже решили, кто должен наши интересы представлять в Палате представителей. Квоты для женщин, БРСМ, ветеранов и действующих палатников установлены, кандидаты в депутаты определены. Вот только согласится ли с этим избиратель? Те две трети людей, считающих, что страна движется в неправильном направлении. То подавляющее большинство, которое не хочет видеть нынешнего правителя во власти дольше 2006 года.

То, что известных оппонентов режима постараются изолировать еще на стадии регистрации, свидетельствует о следующем: власть боится честных выборов. И это не случайно. Никогда еще избирательные кампании не проходили в условиях, когда рейтинг местного бонзы увяз в районе 25%. Никогда не было ситуации, когда у правителя отсутствует политическая поддержка со стороны Кремля.

У нас есть шанс. Мы можем предъявить обществу реальную альтернативу в лицах и действиях. Программу "Пять шагов к лучшей жизни" готовы поддержать миллионы избирателей. Мы в состоянии привлечь на свою сторону более половины населения Беларуси. Нам по силам провести своих представителей в парламент.

Победителей не назначают, их выбирают, и только в честной борьбе.



*Куток старога Мінска.*

**Фота photo.bymedia.net**

## Якія будуць меркаванні?

*У Маскве прайшло абмеркаванне пытання стварэння сумеснай беларуска-расійскай тэлевізійнай праграмы.*

Як паведаміў БелаПАН намеснік міністра інфармацыі Беларусі Сяргей Булацкі, *"прапрацоўка дадзенага пытання з прадстаўнікамі тэлекампаніі "ТВ Цэнтр" праходзіла ў рамках падпісанага ў канцы мінулага года пагаднення паміж Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь і ААТ "ТВ Цэнтр" аб супрацоўніцтве ў галіне тэлевізійнага вяшчання"*.

"Дзе праграма будзе распаўсюджвацца — гэта наступнае пытанне, — зазначыў С.Булацкі. — Альбо будзе выдзелена асобная частата, альбо будуць знойдзены іншыя шляхі вырашэння".

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

# Высяленне з міліцыяй

***Навучэнцаў ліквідаванага коласаўскага ліцэя, якія займаюцца самастойна, спрабавалі вывесці з прыватнай кватэры міліцыянеры і супрацоўнікі ЖЭСа.***

Тыдзень таму "Народная воля" паведамляла, як пачаўся новы навучальны год ў ліцэістаў. Дзеці, якія вырашылі застацца ў сваёй альма-матэр, па-ранейшаму сустракаюцца ў розных памяшканнях Мінска для самастойнай вучобы. Адно з такіх месцаў — кватэра на праспекце Скарыны. Яе здымае бацька адной з ліцэістак Віктар Савіцкі. Ён дазваляе аднакласнікам дачкі час ад часу збірацца ў памяшканні. Звычайна разам з дзецьмі знаходзяцца і дарослыя — гэта выкладчыкі, якія прыходзяць да сваіх былых вучняў для кансультацый.

Аднак 7 верасня Савіцкаму патэлефанавалі з Мінгарвыканкама і сказалі, што быццам бы жыхары пад'езда скардзяцца на новых жыльцоў. А на наступны дзень у кватэру зайшлі супрацоўніцы ЖЭСа. Сэнс іх заявы, па словах Савіцкага, быў наступны: маўляў, кватэра выкарыстоўваецца не па прызначэнні, жыльцы скардзяцца...

І вось учора гэтая гісторыя атрымала працяг. На гэты раз у злашчасную кватэру наведаліся прадстаўнікі не толькі ЖЭСа, але і праваахоўных органаў.

*— Я праводзіў кансультацыю,* — расказвае выкладчык матэматыкі **Міхась Булавацкі**. — *Час ад часу я прыязджаю да ліцэістаў з Магілёва... Хтосьці пазваніў у дзверы, і адна дзяўчынка пабегла адчыняць. А потым заходзіць у пакой і разгублена кажа: "Да вас". У калідоры стаялі два міліцыянты і два прадстаўнікі ЖЭСа. Яны прадставіліся — участковы Дзмітрый Марцінкоўскі, капітан Уладзімір Казак, начальнік ЖЭСа Сяргей Левін і майстар ЖЭСа Ірына Чарняк. Мне задалі пытанне, што я тут раблю. Я адказаў, што я тут — госць, і нічым супрацьзаконным мы не займаемся. "Вы павінны пакінуць памяшканне", — заявілі "госці" і паспрабавалі вывесці з кватэры дзяцей. Я забараніў дзецям сыходзіць. Мне прыгразілі апячатаць кватэру, але потым пачалі званіць Савіцкаму — ён здымае гэтую кватэру".*

Па тэлефоне Віктару Савіцкаму было сказана, што з кватэры пачынаюць выносіць мэблю і выводзіць дзяцей. Калі ён прыехаў на праспект Скарыны, то ўбачыў, што такіх радыкальных захадаў нечаканыя госці не зрабілі. *"Нават ніхто не склаў ніякага пратакола,* — расказвае Віктар Савіцкі. — *Праўда, начальнік ЖЭСа Сяргей Левін сказаў мне, што давядзе справу да канца і дакажа, што мы выкарыстоўваем кватэру не па прызначэнні.*

*Але я не магу зразумець, чаму да мяне не могуць прыходзіць госці. Дзеці нікому не замінаюць, нас не чуваць і не відаць. А пад'езд, калі я сюды засяліўся, увогуле стаў чысцейшым. Амаль кожны дзень мы яго прыбіраем".*

Начальнік ЖЭСа **Сяргей Левін** лічыць інакш. Ён упэўнены, што кватэра выкарыстоўваецца не па прызначэнні.

— Мы прыйшлі на падставе скаргі, — кажа ён. — Жыльцы патэлефанавалі на "гарачую лінію" ў Мінгарвыканкам. Скардзіліся на дзве кватэры. У прыватнасці, на гэтую — тут у дзённы час знаходзіцца шмат дзяцей.

**— Ці былі яшчэ такія выпадкі на тэрыторыі вашага ЖЭСа, калі хтосьці здымаў кватэру і вы высялялі жыльцоў таму, што кватэру выкарыстоўвалі не па прызначэнні?** — пацікавілася я.

— Многа ёсць такіх кватэр, і мы разбіраемся. Кватэра павінна выкарыстоўвацца для жылля... Спачатку складаецца пратакол у адміністрацыйную камісію, а пасля справа разглядаецца ў судзе. І ў дадзеным выпадку таксама будуць складзены паперы.

**— І былі прыклады, калі справа дайшла да суда?**

Адказ на гэтае пытанне я пачула ад участковага міліцыянера **Дзмітрыя Марцінкоўскага**: "Усе імкнуцца ўладкаваць гэтую праблему". Аднак Дзмітрый Мікалаевіч узгадаў толькі адзін выпадак, калі кватэру на вуліцы Залатая Горка наймальнікі вывелі з жыллёвага фонду і зараз выкарыстоўваюць як офіс.

*"Зразумела, што ўлады не для таго зачынілі ліцэй, каб дазволіць дзецям займацца разам,* — лічыць намеснік дырэктара зачыненага ліцэя **Лявон Баршчэўскі**. — *І я ўпэўнены, што гэта не апошні візіт міліцыі, хаця закон спадар Савіцкі не парушае".*

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

## Майстру ўзрост не перашкода

"Аўтар гэтых твораў — значная з'ява ў беларускім мастацтве, без яго нельга ўявіць сабе жывапіс Віцебска, — зазначыў класік айчыннай акварэлі Фелікс Гумен падчас адкрыцця новай персанальнай выставы палотнаў Пятра Явіча, старэйшага віцебскага мастака і адзінага ў горадзе жывога вучня Юрыя Пэна — выдатнага яўрэйскага, рускага і беларускага жывапісца і педагога, з якім юны Пётр Явіч пазнаёміўся яшчэ ў 1926 годзе. Рэалістычная манера Пэна, успрынятая ім ад рускіх настаўнікаў-акадэмікаў, стала вызначальнай і для творчасці Явіча.

Сваю цяперашнюю выставу стары майстар прымеркаваў да свайго 96-годдзя.

"Хацелася паказаць землякам, — гаворыць ён, — што я ўсё яшчэ працую".

Дарэчы, так заўзята працуе, як здолее не кожны малады калега. Упэўненыя мазкі, гарманічны і дакладны каларыт, вытанчаныя каляровыя нюансы — вось што і сёння вабіць у творчасці Пятра Максавіча аматараў і знаўцаў алейнага жывапісу.

Наведвальнікі выставы пераконваюцца, што партрэты, пейзажы і нацюрморты доўгажыхара створаны цвёрдай рукой, пільным вокам і ўсхваляваным сэрцам чалавека, які на дзесятым дзесятку жыцця марыць аб адным — стаць сведкам адкрыцця ў родным горадзе сваёй мастацкай галерэі, палотны для якой Пётр Явіч гатовы аддаць бясплатна.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

# Дефляция: лампы сияют

*Правительство Беларуси подвело итоги работы экономики в августе. Самый удивительный результат — вместо инфляции зафиксирована дефляция. По данным правительства, снижение цен за август текущего года составило 0,2%. Это неожиданно еще и потому, что в последние годы эксперты международных финансовых организаций фиксировали в Беларуси самый высокий уровень инфляции на постсоветском пространстве.*

Чиновники объясняют этот феномен сезонным фактором, в частности, снижением цен на овощи.

С этим мнением отчасти согласен эксперт НИСЭПИ **Валерий Дашкевич,** который в интервью *"Белорусским новостям"* отметил, что "традиционно в последние годы в июле-августе рост цен снижается в силу низких цен на сезонную продукцию — фрукты, овощи".

Валерий Дашкевич также отметил еще один фактор: август — время отпусков, когда люди, как правило, меньше покупают. В то же время эксперт не исключает и то, что дала о себе знать и политика ограничения денежной массы, а также высокие процентные ставки, которые отвлекают деньги населения во вклады.

Впрочем, эксперт отмечает и другие причины зафиксированной в Беларуси дефляции. "При стабильном обменном курсе ценам расти дальше некуда. Если кто-то захочет предложить свою продукцию по более высоким ценам, он может столкнуться со снижением платежеспособного спроса. Во многих случаях белорусские цены даже на потребительские товары уже выше мировых. Если повышать их и дальше, можно потерять и внутренний рынок — в этом случае белорусская продукция может быть вытеснена внешними производителями, которые продают свои товары дешевле", — подчеркнул Валерий Дашкевич.

Эксперт считает, что нельзя сбрасывать со счетов и "усилия государства по недопущению роста цен накануне таких серьезных политических событий, как выборы и референдум".

"Есть определенное недоверие к данным Минстата, поскольку даже в России цены за тот же период выросли на 0,4%. Поскольку мы очень много продукции закупаем в России, мы должны импортировать и инфляцию. По идее, инфляция в нашей стране должна быть по меньшей мере не ниже российской", — считает Валерий Дашкевич.

По мнению эксперта, "дефляция — это временное явление. Возможно, в сентябре инфляция будет невысокой, но после проведения избирательной кампании все будет наверстано".

Впрочем, Валерий Дашкевич отмечает, что дефляция еще более опасна для экономики, чем инфляция. "Если бы дефляция стала явлением обычным, наша экономика столкнулась бы с более сложными проблемами, чем сейчас. Это привело бы к застою экономики. Предприятиям в условиях снижения цен было бы крайне сложно отдавать кредиты, которые были получены под 20-30% годовых, что привело бы к проблемам в банковской сфере. Во всем мире дефляция считается гораздо более опасной, чем инфляция. Но нас это пока не должно беспокоить. Зафиксированная дефляция — скорее случайность, чем закономерность", — сказал Валерий Дашкевич.

**Мария ФЕДОРОВА.**
*("Белорусские новости".)*

ФЕЛЬЕТОН

# Хто паедзе ў Афрыку?

У афрыканскім племені бумба-юмба цэлую ноч гарэлі вогнішчы. Стары шаман скакаў каля полымя і біў у бубен, выганяючы злога духа з маладога суплямянніка, з якім рабілася нешта неверагоднае. Ён ніяк не мог гаварыць, бо пашчэнкі былі моцна злеплены нейкім невядомым рэчывам. Спачатку ўсе думалі, што гэта сталярны клей, з якім людзі племені бумба-юмба ўжо мелі справу. Аднак хутка пераканаліся: не клей.

Перад світаннем шаман зусім знямогся. Ён сеў ля старой ліяны і стомлена прамовіў:

— Я тут бяссільны. Паклічце шамана з суседняга племені бумба-румба. Ён маладзейшы і ў яго ёсць вялікі чароўны бубен.

Так і зрабілі. Прывялі шамана, а за ім прыкацілі бубен. Не паспелі адгрымець першыя ўдары, як няшчасны афрыканец расшчаміў пашчэнкі і ўсміхнуўся. Усе ўздыхнулі з палёгкай.

— Дзе ты цэлы тыдзень цягаўся? Чым ты рот свой так заляпіў, паганец, што ўсіх перапалохаў?! — накінулася на яго жонка, папраўляючы набедраную павязку.

— Я ўсё раскажу, — нарэшце падаў голас сябрук няшчаснага, які да гэтага часу ляжаў пад пальмай, трымаючыся за жывот. Яго боль здаваўся дробяззю ў параўнанні з тым, што тварылася з анямелым. Шаман адным махам дапамог і яму.

— Расказвай, — загадалі ўсе і бліжэй пасунуліся да вогнішчаў.

— Пайшлі гэта мы на паляванне ды заблудзіліся. Ужо і джунглі скончыліся, і людзі нейкія белыя ходзяць наўкола. Аказваецца, мы трапілі ў беларускі пасёлак Калабковічы. Есці хочацца нясцерпна. Бачым, на ўскрайку пасёлка хлебапякарня. Машына якраз хлебам загружалася. Я стаў на варце, а вось ён ціхенька падкраўся да машыны і сцягнуў адну буханку. Селі мы ў кустах за пасёлкам, адламалі па кавалку хлеба, жуём. А ён не жуецца. Прэсны, нясмачны, сыры. Скарынка гарэлая, а спод белы. Я дык крыху з'еў і адразу пачуў, што заныла ў жываце. А гэты з галадухі ўмалоў большую палавіну буханкі. І як укусіў апошні раз, перастаў гаварыць. Склеіў пашчэнкі і мычыць. Я так спалохаўся! А ён дык амаль самлеў. Ледзь дабраліся дадому.

— Хлусі ды меру ведай, — не паверыла адна кабета. Яна, дарэчы, ніколі нікому не верыла. — А як жа гэты хлеб ядуць тамашнія жыхары? У іх таксама пашчэнкі склеены і жываты баляць?

— Яны прывыклі, бо ядуць такі хлеб кожны дзень. А мы першы раз.

— Гэтую справу так пакідаць нельга, — зноў ударыў у бубен шаман. — Мы павінны ўмяшацца і забараніць хлебапёкам карміць людзей такім хлебам, няхай выплачваюць кампенсацыю нашым суграмадзянам за прычыненны страх.

Наспяваў міжнародны скандал. Калабковіцкія хлебапёкі ўстрывожыліся не на жарт. Для прымірэння трэба было накіроўваць у бумбу-юмбу сваю дэлегацыю з кветкамі, соллю і хлебам. Праўда, вырашылі браць хлеб не сваёй выпечкі, а па дарозе ў Афрыку купіць у Мінску. Тамашнія хлебапёкі сваю справу ведаюць добра, як, між іншым, і ў другіх гарадах.

Паўстала пытанне, каго ўключыць у склад дэлегацыі. Нехта прапанаваў абавязкова паслаць дырэктара хлебапякарні Міхася Млынарчыка.

— Пабойцеся Бога, людзі! — спалохаўся той. — Што я ім буду гаварыць? Не паеду! На гэта ёсць аб'ектыўныя прычыны. Няхай едуць загадчыца лабараторыі і загадчыца вытворчасці.

— А чаму мы, чаму мы?! — абурыліся кабеты. — Як толькі што, усё мы вінаватыя. Ды і што мы скажам?

— Тое самае, што кажам усім і ўсюды: хлеб амаль немагчыма есці таму, што дрэнная мука. А на лепшую няма грошай. І наогул, і наогул... Словам, што-небудзь па дарозе прыдумаеце. Да Афрыкі далёка, пакуль даедзеце, цэлы раман можна сачыніць, не тое што апраўданне перад тымі чарнаскурымі, — вучылі іх калегі.

— Не паверыць. Хоць мы так і кажам усім і ўсюды, але ж думаеце нам вераць? Адразу ў піку: а чаму ў Лідзе, Гродне, Магілёве хлеб добры? Там жа таксама танны бывае, з горшай мукі. А добры.

— Так... Тады скажыце, што печы дрэнныя, — прапанавала адна кемлівая жанчына.

— Не павераць. Раней мы так гаварылі, абяцалі: вось перавядзём кацельню на газавае паліва, хлеб будзе — пальчыкі абліжаш. Хоць самому іспанскаму каралю на стол падавай. Кацельня ўжо даўно на газе працуе, а хлеб у нас не то з гліны, не то з якога хімічнага рэчыва.

— Паверыць. Чарнаскурыя ніколі гэтых нашых баек не чулі. Ім што ні скажаш — ва ўсё паверыць. Так што не марудзьце, адпраўляйцеся ў дарогу.

— А можа, зусім не ехаць? — ціхенька прамовіла загадчыца лабараторыі. — Паабураюцца афрыканцы ды і забудуцца. Не памерлі ж яны ад нашага хлеба. І ніхто яшчэ не памёр.

— Як гэта не ехаць! — абурылася прафсаюзная актывістка. — Ехаць трэба абавязкова, а то бяды не абярэмся, як не задобрым. Разынак ім завязіце, булачак смачных спячыце. Ды каб усё там было: цукар, дрожджы, мукі не забудзьцеся ўсыпаць. Белай. І самую вялікую булачку аддайце таму шаману, што небаракаў вылечыў. Каб не яго чароўны бубен, то не мінуць бы нам міжнароднага суда, які знаходзіцца ці то ў Гаазе, ці то ў Празе.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

ДЗІКУНСТВА

## Вользе Карач пагражаюць фізічнай расправай

*Перадвыбарныя перыпетыі дэпутата Віцебскага гарсавета, прэтэндэнта ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў ад БСДП (НГ) усё больш нагадваюць крымінальны серыял.*

Непрыемнасці праследуюць Вольгу Карач с самага пачатку выбарчай кампаніі. Акруговая выбарчая камісія адмовіла ў рэгістрацыі ініцыятыўнай групы, ЦВК і Вярхоўны суд скаргу прэтэндэнткі не задаволілі. Пасля невядомыя распісалі сцены дамоў у акрузе, дзе вылучаецца Вольга, лозунгамі "Галасуем за Карач!", "Зубр за Вольгу Карач!" і г.д. Дэпутат звярнулася ў міліцыю з просьбай знайсці хуліганаў. *"Гэта відавочная правакацыя — стварэнне карціны заўчаснай агітацыі. Ні я, ні мае паплечнікі ніякага дачынення да надпісаў не маем. Мы не займаемся дзіцячымі гульнямі. Мы што, ворагі сабе, каб адмыслова шкодзіць?"* — абураецца Карач.

На наступны дзень пасля звароту дэпутата ў праваахоўныя органы ў кватэру Сцяпана Цішуціна, члена незарэгістраванай ініцыятыўнай групы Вольгі, уварвалася міліцыя. За лічаныя хвіліны "месца жыхарства" палітыка перавярнулі дагары нагамі. Ордэр на вобыск прад'яўлены не быў. *"Усё адбывалася позна ўвечары ў аўторак. Без усялякіх санкцый міліцыя пералапаціла кватэру Сцяпана, абшукала падвал. З боку можна было падумаць, што на кватэру напалі рабаўнікі — настолькі ўсё нахабна рабілася... Цішуціна завезлі ў Кастрычніцкае РУУС, там жа спрабавалі прыпісаць аўтарства агітацыйных лозунгаў. Калі б не своечасовы прыезд сяброў і журналістаў, не ведаю, да чаго б там дайшло",* — распавядае Карач.

Некалькі дзён таму на прыём да дэпутата гарсавета Вольгі Карач прыйшлі незнаёмцы. *"Мне было сказана адкрытым тэкстам: маўляў, добра падумайце, ці варта вам удзельнічаць у парламенцкай гонцы. Ці мала што з вамі можа здарыцца, вы ж позна па вечарах адна ходзіце дадому",* — канстатуе 25-гадовая прэтэндэнтка ў кандыдаты.

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ.**



# Ударная будоўля ператвараецца ў даўгабуд

Мемарыял "Беларусь партызанская" планавалася ўрачыста адкрыць яшчэ ў дні святкавання 60-годдзя Вызвалення, але на дадзены момант узведзены толькі пастамент помніка — аздобленая бронзавым рэльефам гранітная калона.

Згодна з аўтарскай задумай, калону павінна завяршаць скульптурная кампазіцыя (зубр і жанчына са сцягам), якая сімвалізуе барацьбу і перамогу. Яна ўжо адлітая ў бронзе, але ставіць яе на пастамент не спяшаюцца. Ударная будоўля ператвараецца ў даўгабуд. Чаму так здарылася?

Службовыя асобы, якія маглі б паведаміць з гэтай нагоды што-небудзь карыснае, ухіляюцца ад інтэрв'ю. Маўчыць і кіраўніцтва Саюза мастакоў, спасылаючыся на тое, што Саюз ад пачатку не меў да гэтага праекта дачынення. Нават аўтар мемарыяла скульптар **Валянцін ЗАНКОВІЧ** на пытанне "Калі адкрыецца помнік?" толькі пацiскае плячыма.

Ходзяць чуткі, што ў Міністэрстве культуры падрыхтаваны цікавы дакумент — Палажэнне аб конкурсе на дапрацоўку мемарыяла "Беларусь партызанская" на Партызанскім праспекце г.Мінска. Звесткі пра гэта нават прасачыліся ў СМІ.

Міністэрства насамрэч мае права абвясціць такі конкурс. Але толькі пасля таго, як Манументальны экспертны савет афіцыйна прызнае працу Валянціна Занковіча нездавальняючай і на сваім пасяджэнні складзе пра гэта юрыдычна аформлены дакумент. У гэтым дакуменце мусіць быць занатавана меркавнне кожнага сябра савета і вынікі галасавання. Манументальны савет па гэтым пытанні пакуль што не збіраўся...

На дадзены момант мемарыял ужо каштуе 300 мільёнаў рублёў. 250 мільёнаў трэба заплаціць за працу скульптарам, ліцейшчыкам, каменярэзам, будаўнікам. 50 мільёнаў — доўг Украіне (кошт прывезенага адтуль шэрага граніту плюс штраф за непералічаныя пастаўшчыку ў абумоўлены тэрмін грошы). Колькі будзе каштаваць дапрацоўка мемарыяла, ніхто не ведае.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**



**На здымках:** *зверху — так мусіць выглядаць манумент згодна з аўтарскай задумай (фотамантаж).*

*Справа — адлітая ў бронзе галоўная кампазіцыя манумента.*

## «Андэграўнд» выйшаў з падполля

14 верасня ў нашай краіне пашырылася культурніцкае поле. У гэты дзень у Доме літаратара адбылася прэзентацыя новага літаратурнага часопіса з неакрэсленай і адначасова шматзначнай назвай "Тэксты". Паколькі часопіс загадзя быў разрэкламаваны як прыкольны, аўдыторыя на прэзентацыі была збольшага маладзёжная. Прадстаўляў гэты опус грамадзе і вёў рэй на вечарыне Зміцер Вішнёў, ветэран "Другога фронту мастацтваў" і жывая легенда "Бум-Бам-Літу".

Новы часопіс яднае аўтараў, што складаюць памянёны вышэй "фронт" і пасвяцца вакол выдавецтва "Логвінаў". На маю думку, "Тэксты" нарадзіліся з настальгіі старэйшых "бумбамлітаўцаў" па рамантыцы "андэграўнда". Гэты праект уяўляе сабой спробу адрадзіць "андэграўнд" ва ўмовах нейкага падабенства мастацкага рынку, хай нават не як з'яву, а толькі ў якасці "брэнда". На імпрэзе за мікрафон трымаліся і вядомыя постаці беларускага паставангарда, такія як Валянцін Акудовіч і Юрась Барысевіч, і маладая, але амбітная генерацыя.

В. Акудовіч шчыра прызнаўся, што часопіса ён пакуль не чытаў, але гэта не важна. Сам факт ягонага выхаду ў свет мусіць стаць падзеяй, бо ў нашых спецыфічных умовах сумленнае беларускае слова ў надрукаваным выглядзе абавязкова набывае сакральны сэнс. Андрэй Хадановіч выклікаў энтузіязм публікі, праспяваўшы сваю песню, прысвечаную беларускім калгаснікам — пераможцам у "сацыялістычным спаборніцтве" з беларускімі алімпійцамі. Прыязна прыняла грамада і "блюз" Сержа Мінскевіча — сюррэалістычны гімн балоту як хісткай глебе нашага нацыянальнага духу. На імпрэзе гучалі тэксты, якія можна трактаваць як вершы, ладзіліся перформансы. Калі скончыўся час арэнды залы, некаторы час свята гудзела ў фае. Тут можна было набыць і сам часопіс (ягоны наклад усяго 299 асобнікаў), і іншую беларускую літаратуру, у тым ліку і даволі рэдкія на сённяшні дзень выданні. "Тэксты" я не прыдбаў, бо апошнія грошы, якія ў мяне былі на той момант у кішэні, аддаў за Коласавага "Сымона-музыку" (выдадзены ў 1990 годзе) з авангардысцкімі для свайго часу, а сёння класічнымі ілюстрацыямі Міколы Селяшчука.

**Віталь БОГУШ.**

## ШАШКІ

### Цэнтральная сіметрыя

Класіфікацыйны конкурс-15 працягваем дзевятым заданнем — камбінацыйнай праблемай Пятра ШКЛУДАВА з Наваполацка, якую ён даслаў пад назвай "Цэнтральная сіметрыя".

**Белыя:** a7, b6, c7, d4, d6, e3, f2, f4, g3 (9).

**Чорныя:** b2, b4, c3, c5, e5, e7, f6, f8, h2, h4 (10).

**Выйгрыш (чатыры ачкі).** Калі будзе жаданне, паспрабуйце скласці падобную кампазіцыю.

Тэрмін для адказаў — традыцыйныя два тыдні. Чакаем іх па адрасе: **220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а, рэдакцыя газеты "Народная воля", "Шашкі".**





### Першынство Еўропы

У Польшчы прайшло першынство Еўропы па шашках-100 сярод моладзі. Чэмпіёнамі сталі: у юнакоў — Роберт Мізанс з Латвіі (19 год і маладзей), Арцём Іваноў з Украіны (16), Айнур Шаўбакоў з Расіі (13), Максім Шароў з Украіны (10), у дзяўчынак — Ласма Абрамсоне з Латвіі (19), Алеся Абдуліна з Расіі (16), Марта Нагавішына з Расіі (13), Аўгул Ідрысава таксама з Расіі (10).

Спаборнічалі ў ім і беларускія маладыя шашысты. Лепш за ўсіх выступіў Андрэй Толчыкаў з Гомеля. У групе хлопчыкаў, якім ад роду 16 і меней гадоў, ён заваяваў бронзавы медаль.

Астатнія нашы прадстаўнікі атрымалі такія паказчыкі: 4.Ігар Міхальчанка і 14.Уладзіслаў Сплендэр — у галоўным спаборніцтве; 17.Сяргей Марчанка і 14.Эдгар Варданян — у намінацыях-16 і 13; 8.Святлана Гарбачэнка і 16.Людміла Журбіцкая — у турніры-19; 21.Вольга Кавалёва і 13.Маргарыта Батура — сярод кадэтак ва ўзросце 16 і 13 гадоў.

Камандны залік: 1.Расія, 2.Украіна, 3.Латвія, 4.Галандыя, 5.Польшча, 6.Беларусь, 7.Літва, 8.Эстонія, 9.Арменія. 10.Германія, 11—16.Чэхія, Венгрыя, Бельгія, Францыя, Італія і Малдова.

Паведаміў чэмпіён Беларусі па шашках-64 Кірыл Хайнюк — наш новы карэспандэнт, які рыхтаваў каманду Беларусі да юнацкіх баталій.

### Чэмпіянат Беларусі

Завяршыўся чэмпіянат Беларусі па завочных шашках-64 — трыццаць восьмы па ліку. Сярод 74 іракоў былі безразраднікі, кваліфікаваныя шашысты і нават міжнародны майстар ва ўзросце ад 17 да 70 гадоў.

У вышэйшай лізе (класічная версія) перамог кандыдат у майстры спорту мінчанін Міхаіл Гельман. Ён набраў 18 ачкоў з 24 магчымых і правёў турнір без паражэнняў, як і мінчанін Васіль Грабенка, які заняў чацвёртае месца. На другім месцы — майстар Аляксандр Ляхоўскі з Жодзіна (16), на трэцім — кандыдат у майстры спорту Леанід Козел з Мядзеля (15).

У БВЛ-38-Ж (таксама вышэйшая ліга, але з жараб'ёўкай дэбютаў) мацнейшым стаў майстар Яўген Салановіч (Мінск), які ўжо двойчы (у 1990 і 1991 гадах) заваёўваў званне чэмпіёна рэспублікі. На яго рахунку — 25 ачкоў з 30. На два ачкі адстаў ад яго кандыдат у майстры спорту Ігар Гайдукевіч (Баранавічы). А.Ляхоўскі з 20 ачкамі апярэдзіў кандыдата ў майстры спорту В.Грабенку па іншых паказчыках.

У БПЛ-38 (першая ліга) першая чацвёрка прызёраў выглядае так: Гендрык Мілош, Астравецкі р-н (20 з 24), Антон Бацяноўскі, Глыбокае (18), Яўген Леванюк, Мінск (17) і Анатоль Рогач, Вілейка (16). Усе яны перайшлі ў вышэйшую лігу. У першай лізе (БПЛ-38-Ж) першае месца прысуджана Я.Леванюку.

А вось вынікі турніру кандыдатаў у майстры спорту (БКМ-38): 1.Людміла Чыжэўская, Мінск (18 з 24), 2.Аляксандр Бахонка, Калінкавічы і 3.Дзмітрый Лук'яненка, Глыбокае (па 17). Гэтыя ўдзельнікі, а таксама Іван Жукоўскі (16), Анатоль Сапрончык (15) і Уладзімір Дрэмач (14 ачкоў) трапілі ў першую лігу.

Сярод разраднікаў (БТР-38) вызначыўся Мікалай Аўтух (Докшыцы).

Паспяхова справілася са сваімі абавязкамі судзейская калегія ў складзе майстра Георгія Пятровіча і Міхаіла Гельмана.

Наступны, 39-ы, чэмпіянат пачнецца 1 лістапада бягучага года. Па ўсіх пытаннях удзелу ў ім можна звяртацца да галоўнага сакратара Камісіі завочных шашачных спаборніцтваў Міхаіла Давыдавіча Гельмана па тэлефоне ў Мінску 257-87-92 альбо пісьмова па адрасе: 220018, Мінск, вул.Бурдзейнага, 1-16.

Дарэчы, М.Гельман, А.Ляхоўскі і В.Грабенка — цяперашнія нашы канкурсанты, а першы з іх — таксама пастаянны карэспандэнт, дзякуючы якому і падрыхтавана гэтая інфармацыя.

### З нізкі кампазіцый

Мы ўжо віншавалі нашага актыўнага аўтара Аляксандра Ляхоўскага з 55-годдзем з дня яго нараджэння. Сёння знаёмім з кампазіцыйнай творчасцю юбіляра:

**1.Белыя:** a1, b6, e1, e5, f4, g1, g3, h4, h6 (9). **Чорныя:** a3, b8, c3, e7, f6, f8, g7, h2 (8). Gf2, c7, d2, b2, d8, h4, e7, c5/b4x.

**2.Белыя:** c3, d2, e1, e3, f2, g5, h2, h6 (8). **Чорныя:** a5, c5, c7, f4, f6, f8, g3, g7, h4 (9). B4, b4, d6, e7, b4, c3x.

**3.Белыя:** a1, a3, c1, d6, e5, g1, h2, h6 (8). **Чорныя:** c3, d8, e3, f2, f4, f8, g3, g7 (8). Ab2, b4, c7, c5, d2, e7, f4, h6x.

**4.Белыя:** a3, b2, c1, d2, e1, g5, h2, h4, h6 (9). **Чорныя:** a5, d4, d6, e3, f2, f4, f8, g3, h8 (9). Bc3, c3, b4, b2, d2, e7, f4, f6, g1x.

**5.Белыя:** a1, b4, d2, e3, f2, f4, g3 (7). **Чорныя:** a7, c3, c7, d6, e7, g5, g7, h6 (8). Пашукайце перамогу за белых самастойна. Будзем рады вашым рашэнням.

**Мікалай ГРУШЭЎСКІ, майстар спорту.**

## Тэлевізар, які размаўляе

*ААТ "Гарызонт" распрацавала арыгінальную мадэль тэлевізара "Хуманік" 21BF42L, які здольны размаўляць з чалавекам.*

Пры ўключэнні тэлевізара і яго выключэнні маладым голасам агучваюцца словы прывітання і развітання. Акрамя таго, у новай мадэлі агучана сістэма меню, у якой, акрамя ўсіх іншых, ёсць функцыя будзільніка, што выдае на выбар сінтэзаваны гук кукарэкання пеўня ці каманду чалавечага голаса "Час уставаць!". Наступным крокам на базе названай мадэлі тэлевізара стане праграміраванне выразаў яго ўладальнікам. Напрыклад, на пэўны час можа быць устаноўлены будзільнік з тэкстам "Час есці!".

Новая мадэль тэлевізара не мае аналагаў у свеце. Кошт названай мадэлі яшчэ не вызначаны. З кастрычніка 2004 года будзе асвоена серыйная вытворчасць тэлевізараў. Да канца бягучага года плануецца вырабіць 3—5 тысяч штук.

## Падазраецца ў атрыманні хабару

*Брэсцкай транспартнай пракуратурай заведзена крымінальная справа па ч.2 арт. 430 "Атрыманне хабару" Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь у дачыненні да 43-гадовага супрацоўніка кантрольна-рэвізійнай службы Беларускай чыгункі.*

Як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні ўнутраных спраў на транспарце МУС, гэты работнік з лістапада 2002 года па жнівень 2004 года за спрыяльнае вырашэнне пытанняў па выніках праверак неаднаразова атрымліваў хабар ад дырэктара вагона-рэстарана чыгуначнага вакзала станцыі Брэст, усяго на 380.000 рублёў. Праводзіцца расследаванне.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

**16**

**верасень**

**ЧАЦВЕР**
Усх. 6.45 Зах. 19.23
Даўж. дня 12.38
Маладзік 14 верасня

**100 гадоў** з дня нараджэння Р.М. Кашэльнікавай (1904—1980), актрысы, народнай артысткі БССР





## СПОРТ

### Абрамовіч пачынае з перамогі

*Днямі ўзяў старт самы прэстыжны футбольны турнір на тэрыторыі Еўропы — Ліга чэмпіёнаў УЕФА.*

Паколькі беларускім клубам яшчэ далёка да еўрапейскай футбольнай эліты, думаецца, што цікавасць беларускіх аматараў гэтага віду спорту будзе засяроджана на выступленнях нашых геаграфічных суседзяў — украінскіх і расійскіх каманд.

У групе Н маскоўскі ЦСКА ў сваім першым матчы гуляў на выездзе з партугальскім "Порту" (*на здымку — момант гульні*). Гульня завяршылася ўнічыю — 0:0. Яшчэ адзін матч у гэтай падгрупе, дзе сустракаліся французскі "ПСЖ" і лонданскі "Чэлсі" завяршыўся пераканаўчай перамогай каманды Рамана Абрамовіча — 3:0.

У групе Е грэчаскі "Панацінаікас" атрымаў перамогу над нарвежскім "Русенборгам" — 2:1, а "Арсенал" з Лондана выйграў у галандскага "ПСВ" — 1:0.

У групе F свой першы матч праводзіў данецкі "Шахцёр". Украінцам не хапіла шасці хвілін, каб утрымаць нулявую нічыю ў супрацьстаянні з італьянскім "Міланам". Нашы паўднёвыя суседзі саступілі з лікам 0:1. У сваю чаргу, апаненты "Шахцёра" па групе высвятлялі адносіны ў шатландскім Глазга, дзе мясцовы "Сэлцік" саступіў іспанскай "Барселоне" — 1:3.

З перамогі над бельгійскім "Андэрлехтам" распачала сваё выступленне ў групе G іспанская "Валенсія" — 2:0. Такі ж вынік зафіксаваны ў сустрэчы італьянскага "Інтэра" і нямецкага "Вердэра". Тут перамога за італьянцамі.





Учора вечарам прайшлі астатнія гульні першага тура Лігі чэмпіёнаў. Пра іх вынікі — у наступным нумары.

### Чэмпіён ёсць чэмпіён

*Набірае ход 13-ы чэмпіянат Беларусі па хакеі з шайбай. Нагадаем, што з гэтага года айчыннае першынство мае статус адкрытага чэмпіянату.*

Справа ў тым, што чэмпіянат Усходнееўрапейскай хакейнай лігі, дзе беларускія хакейныя клубы маглі рэгулярна сустракацца з сапернікамі з Украіны, Латвіі і іншых краін з гэтага года не праводзіцца. Сваё жаданне "стаць беларусамі" выказалі ўкраінскі "Сокал", а таксама латышскія "Металургс" і "Рыга-2000". Акрамя клубаў-легіянераў, у чэмпіянаце ўдзельнічаюць дзевяць беларускіх каманд.

У межах чэмпіянату згуляна ўжо тры туры. Як і належыць чэмпіёну, мінскае "Юнацтва" захапіла лідэрства і ў гэтым сезоне. У трэцім туры хакеісты пад кіраўніцтвам Міхаіла Захарава перамаглі землякоў з "Дынама" — 3:0. Між іншым, за тры сустрэчы "Юнацтва" не прапусціла ў свае вароты ніводнай шайбы. Следам за "Юнацтвам" ідзе мінскі "Керамін", які пакуль таксама мае стопрацэнтны паказчык. У трэцім туры "Керамін" перамог магілёўскае "Хімвалакно" — 3:2.

Буйную перамогу адсвяткаваў "Гомель". Каманда з берагоў Сожа выйграла ў "Віцебска" — 8:2. Гродзенскі "Нёман" атрымаў сухую перамогу над "Рыгай-2000" — 3:0, а кіеўскі "Сокал" выйграў у наваполацкага "Хіміка" — 4:2. Адзіная нічыя ў трэцім туры зафіксавана ў сустрэчы паміж "Брэстам" і ліепайскім "Металургсам" — 3:3.

### Не шанцуе ні ў пары, ні ў «адзіночцы»

На тэнісным турніры ў Дэйлэр-Біч (ЗША), прызавы фонд якога складае 380.000 долараў, беларускі тэнісіст Максім Мірны саступіў у першым раўндзе адзіночнага турніру амерыканцу **Угу Армадзе** — 6:3, 6:7, 6:7. А ў парным разрадзе з амерыканцам Амерам Дзелічам Мірны саступіў чылійска-бразільскаму дуэту Адрыян Гарсія/Рыкарда Мела — 7:5, 3:6, 2:6.

### Беларусы накідалі кіпрыётам

Мужчынская зборная Беларусі па баскетболе правяла адборачную сустрэчу да чэмпіянату Еўропы 2005 года. Нашы спартсмены перамаглі каманду Кіпра — 77:72.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

## ШАХМАТЫ

### Решите миниатюру М.Калгин

**Белые:** Kpd1, Фb1, Лh5, Ke4, Kg2 (5).

**Черные:** Kpf3, п.d3 (2).

**Мат в 2 хода.**

Предлагаем вниманию любителей шахматной композиции двухходовую задачу-миниатюру российского составителя. Попробуйте найти ее решение. Свои ответы присылайте по адресу: **220030, Минск, ул.Энгельса, 34а, редакция газеты "Народная воля", "Шахматы".**





### Юдит Полгар вне конкуренции

Выдающейся венгерской шахматистке Юдит Полгар в этом году исполнилось 28 лет. Она младшая из знаменитого трио сестер Полгар, из которых старшая сестра Жужа была чемпионкой мира. Несмотря на возраст, Юдит уже 15(!) лет возглавляет женский рейтинг-лист ФИДЕ. Причем отрыв ее от ближайших соперниц огромный. Сама Юдит участвует лишь в соревнованиях мужчин, где также достигла замечательных результатов. В международном мужском рейтинг-листе она занимает 8-ю строчку, выше таких знаменитостей, как четырехкратный чемпион России Петр Свидлер, Алексей Широв, экс-чемпионы Руслан Пономарев, Василий Иванчук, Борис Гельфанд, Анатолий Карпов и т.д.

Сейчас Юдит Полгар возглавляет женский рейтинг-лист ФИДЕ с показателем 2728(!) У идущей на втором месте экс-чемпионки мира китаянки Се Цзюнь — 2564. Разрыв, как видим, составляет 164 пункта! Фантастика! В первую двадцатку мирового рейтинг-листа среди женщин также входят: 3.чемпионка мира Антуанетта Стефанова (Болгария) — 2527, 4.чемпионка Европы Александра Костенюк (Россия) — 2511, гроссмейстеры 5.Хампи Конеру (Индия) — 2511, 6.экс-чемпионка мира Майя Чибурданидзе (Грузия) — 2498, 7.экс-чемпионка мира Чжу Чень (Китай) — 2494, 8.Алиса Галлямова (Россия) — 2490, 9.Пиа Крамлинг (Швеция) — 2489, 10.Светлана Матвеева (Россия) — 2482, 11.Чжао Сю (Китай) — 2477, 12.Нана Дзагнидзе (Грузия) — 2476, 13.Наталья Жукова (Украина) — 2475, 14.Сю Юйхуа (Китай) — 2472, 15.Екатерина Лагно (Украина) — 2472, 16.Екатерина Ковалевская (Россия) — 2470, 17.Цинь Каньин (Китай) — 2466, 18.чемпионка России Татьяна Косинцева — 2462, 19.Ирина Круш (США) — 2459, 20.Хоанг Тхан Транг (Вьетнам) — 2455.

В числе 50 сильнейших больше всего представительниц России — 11, от Китая — 7 спортсменок, Грузии, Польши, Украины — по 4, Венгрии — 3, Индии, Румынии, Франции, Сербии и Черногории — по 2, по одной шахматистке еще от 10 стран.

Приводим одну из партий Юдит Полгар, сыгранную на супер-турнире в Вейк-ан-Зее в 2003 году. Ее соперником был прославленный чемпион Анатолий Карпов.

### А.Карпов—Ю.Полгар Новоиндийская защита

1.d4 Kf6 2.Kf3 e6 3.c4 b6 4.a3 Cb7 5.Kc3 d5 6.cd K:d5 7.Фc2 K:c3 8.Ф:c3 h6 9.e3 Kd7 10.b4 Ce7 11.Cb2 o-o 12.Лd1 a5! Используя перевес в развитии, черные начинают активные действия на ферзевом фланге. 13.b5 Лc8 14.Фb3 c6 15.bc C:c6 16.Cb5? Пропуская тактический удар. 16...Cb4+! 17.ab C:b5 18.ba Cc4 19.Фa3 ba. В итоге белый король застревает в центре, что позволяет черным успешно его атаковать. 20.Фd6 Cb5 21.d5 Лc2 22.Лd2 Фc8 23.Фa3. (Угрожало 23...Л:b2!) 23...Л:d2 24.Kp:d2 Kb6 25.Фc3 Kc4+ 26.Kpc2 e5 27.Kpb1 Фg4 28.Лc1 Лb8 29.Лc2 f6 30.d6 Ф:g2 31.Kd2 Фh1+ 32.Kpa2 K:d6 33.Фc5 Лc8. **Белые сдались.**

### Турнирный калейдоскоп

В Монреале (Канада) прошел международный шахматный фестиваль. В его программе было два международных турнира. В группе "А" играли 7 международных гроссмейстеров и 5 международных мастеров. Соревнования проводились по круговой системе. В напряженной борьбе первым на финише был украинец Захар Ефименко, набравший 7,5 очка из 11 возможных. На пол-очка отстали гроссмейстеры Игорь Натаф (Франция) и Александр Моисеенко (Украина). Среди участников была юная украинская шахматистка Катя Лагно. Хотя она и не показала высокого результата, в отдельных партиях Катя играла очень хорошо. Так, в свой актив она может записать ничьи с известными гроссмейстерами Эдуардасом Розенталисом (Литва) и Александром Хузманом (Израиль).

В турнире "Б" выступали 6 гроссмейстеров, 2 международных мастера и 4 мастера ФИДЕ. Здесь сильнейшим оказался канадец Александр Лесьеж, набравший 8 очков из 11 возможных. По 7 очков набрали кубинец Вальтер Аренсибия и бывший гомельчанин, ныне представляющий Израиль, гроссмейстер Виктор Михалевский.

* * *

Открытый международный турнир в Риге собрал около 200 шахматистов из 15 стран. Соревнования проводились по швейцарской системе в 9 туров. Успешно выступил в турнире международный гроссмейстер из Латвии Эдвин Кеньгис, набравший в 9 встречах 7,5 очка. Это обеспечило ему единоличную победу. Всего на пол-очка от победителя отстали исландец Ханнес Стефанссон, Михаил Рычагов (Эстония) и Илмар Старостис (Латвия).

### В.Ананд—А.Широв

В Майнце (Германия) в рамках международного шахматного фестиваля прошел матч по быстрым шахматам между чемпионом мира 2003 года индийским гроссмейстером Вишванатаном Анандом и Алексеем Шировым (Испания). Соперники провели между собой 8 партий. Победу со счетом 5:3 одержал Ананд.

Напомним, что ранее в подобных матчах Ананд одерживал победы над чемпионом мира Владимиром Крамником, чемпионом мира ФИДЕ Русланом Пономаревым и лучшей шахматисткой мира Юдит Полгар.

## Четверг, 16 сентября

**БТ**

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 14.00, 15.00, 17.00, 18.00, 23.00** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!".
**07.30, 08.30, 20.00** "Деловая жизнь".
**09.05 "Вылет задерживается".** Мелодрама.
**10.30** "Спасатели".
**11.10, 18.15 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**12.10 "Это не я, это — он".** Комедия.
**13.45** Мультфильм.
**14.05** "Портреты современников". Видеофильм АТН.
**14.15** "Путешествие дилетанта".
**14.45** "Соло для дебютанта".
**15.15 "Невероятные приключения командора Кусто".** Мультсериал.
**16.05** "5х5".
**17.05** "Путь оливок и лаванды".
**17.30** "Новая коллекция" Олега Лукашевича".
**19.15** "Сфера интересов".
**19.35** "Судьба человека".
**20.05 "Возвращение Мухтара".** Сериал.
**21.00** "Панорама".
**21.50** "Права человека. Взгляд в мир".
**22.00 "Геймер".** Комедия.

**ОНТ**

**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 23.10** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
**09.05, 19.05 "Клон".** Сериал.
**09.55, 18.10** "Дом". Реалити-шоу.
**10.45** "Дисней-клуб".
**15.55 "Женщины в любви".** Сериал.
**16.50** "Пять вечеров".
**20.00** "Время".
**21.00 "Черный ворон".** Сериал.
**22.05 "Антикиллер-2".** Боевик.
**23.25** "Народный артист".
**23.40** "Человек и закон".

**РОССИЯ**

**07.45, 17.50 "Марш Турецкого".** Сериал.
**08.45, 16.50 "Ундина. На гребне волны".** Сериал.
**09.45, 12.45, 18.50** "Вести. Дежурная часть".
**10.00, 16.00, 19.00** "Вести".
**10.30, 19.30** "Местное время. Вести — Москва".
**10.50 "Бедная Настя".** Сериал.
**11.50** "Что хочет женщина".
**16.20 "Кулагин и партнеры".** Сериал.
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!".
**19.55 "Каменская-3".** Сериал.
**22.00** "Вести+".
**22.20** "Елисеевский". Казнить. Нельзя помиловать". Док.фильм.
**23.25 "Дикие сердцем".** Триллер.

**ЛАД**

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 14.00, 20.45** Новости.
**08.10** "Наше наследие".
**08.25** ("Культура") "Апокриф". Ток-шоу.
**09.05** ("Культура") "Эпизоды". Историк Сигурд . Шмидт.
**09.45, 18.00 "Шестеро неутомимых".** Сериал.
**10.45, 14.35** Мультфильмы.
**11.10, 18.55 "За кулисами".** Сериал.
**12.00** "Обычный необычный день".
**12.30 "Конец бабьего лета".** Мелодрама.
**14.10** "Свет далекой звезды".
**14.35** "Мультиклуб".
**15.05** "Не зевай!".
**15.15** "Бум".
**15.40 "Нежный возраст".** Сериал.
**16.10** "Мой Минск. Ностальгическое путешествие". Док.фильм.
**16.50** "С верой в Белую Русь". Видеофильм АТН.
**17.10** "Из архивов БТ".
**17.35** "Площадь искусств".
**19.45** "Дела семейные".
**20.30** "Колыбельная".
**21.00** ("Культура") "Культурная революция".
**21.55** ("Культура".) "Атланты в поисках истины".

**НТВ**

**09.00, 15.00, 18.00, 23.30** "Сегодня".
**09.20** "Преступление в стиле модерн".
**09.55** "Кулинарный поединок".
**10.55, 18.40 "Улицы разбитых фонарей-6".** Сериал.
**15.20** "Принцип домино".
**16.25 "Таксист".** Сериал.
**17.35** "Криминальная Россия".
**19.50 "Фабрика грез".** Сериал.
**21.00** "Страна и мир".
**21.40** "К барьеру!".
**22.50, 23.45 "Гладиатор".** Боевик.

**СТВ+RenTV**

**06.20, 18.00** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.35** "Рыцари-забияки". Мультсериал.
**07.00** "Кот по имени Ик". Мультсериал.
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.45** "24 часа".
**07.50, 20.00** "СТВ-спорт".
**08.00** "Светская хроника".
**08.15, 23.10** "Технология".
**08.25** "Судьбы своей хозяйка".
**08.45** "Таракан-робот". Мультсериал.
**09.10 "Снайпер".** Боевик.
**10.40** "Проект "Отражение".
**11.25** "Ecce Homo".
**11.40, 20.35** "Фильм, фильм, фильм".
**12.00** "Час суда".
**12.45** "Дикая планета".
**13.50, 18.30 "Провинциалы".** Сериал.
**14.45 "ОБЖ, или Обреченные на сражение". "ОБЖ, или Осень багряная, нежная".** Сериал.
**15.45** "Маска". Мультсериал.
**16.15** "Добро пожаловаться".
**17.00 "Медики".** Сериал.
**18.15** "Театральные истории".
**20.10** "Тема дня".
**20.20** "Добрый вечер, малыш".
**20.55 "Охотник за убийцами".** Боевик.
**23.20** "Турпоход".
**23.30** "Новости мировой шоу-индустрии".
**00.15 "Секретные материалы".** Сериал.
**01.00** "Новости СНГ".

**8-Й КАНАЛ**

**07.00 "Зина-Зинуля".** Драма.
**08.10, 17.50, 21.00** "Телемагазин".
**08.15** "Программа мультфильмов".
**09.15, 19.45** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют...
**09.20** "Трюкачи Голливуда".
**09.40, 19.50 "Горец".** Сериал.
**10.30, 21.10 "Холодное лето 53-го".** Драма.
**16.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**16.45 "Собака на сене".** Комедия.
**18.00 "Люди в черном".** Комедия.
**20.45** "Вечарніца".

**ТВ ЦЕНТР**

**04.45, 06.30** "Настроение".
**07.35** "Газетный дождь".
**07.45 "Московская любовь".** Мелодрама.
**09.15** "В порту". Мультфильм.
**09.30** "Доходное место".
**09.40** "Войди в свой дом".
**09.45** "Телемагазин".
**10.00, 13.00, 17.00, 21.00** "События. Время московское".
**10.15** "Дата".
**11.05** "Особая папка".
**11.40** "Право на надежду".
**12.05, 23.00** "Петровка, 38".
**12.25** "Деловая Москва".
**13.15 "Инспектор Кресс".** Сериал.
**14.20, 18.40** "Экспо-новости".
**14.30** "Марш-бросок".
**15.00** "Регионы: прямая речь".
**15.30** "Песенка года".
**16.00 "Комиссар Мулен".** Сериал.
**17.15** "21-й кабинет".
**18.00 "Таковы эти женщины".** Сериал.
**18.50** "Пять минут деловой Москвы".
**18.55 "Удар по системе".** Боевик.
**20.40** "Репортер".
**21.40** "Секретные материалы: расследование ТВЦ".
**22.30** "Времечко".
**23.20** "25-й час. События. Время московское".
**23.45** "Супердиск".
**00.00 "По закону".** Сериал.
**01.00** "Синий троллейбус".

**EUROSPORT**

**09.30** Футбол. "Го-о-о-ол!!!".
**10.00** Конный спорт. Кубок наций "Самсунг" в Канаде.
**11.00, 18.30** Мультиспорт. "Всякая всячина".
**11.30** Легкая атлетика. Летние Олимпийские игры в Афинах.
**13.30** Велоспорт. Тур Испании.
**19.00** Снукер. Международные соревнования по трик-шоту.
**21.00** Ралли. Чемпионат мира в Великобритании.
**21.30** Бокс. Международные соревнования.
**23.15** Новости "Евроспорта".
**23.30** Футбол. Кубок УЕФА.
**01.00** Футбол. Лига чемпионов УЕФА.

**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс(017) 206-68-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04, 206-69-06.**
**E-mail : nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**

**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**



Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №246 ад 10 кастрычніка 1996 г. (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Нумар газеты аддрукаваны з дыяпазітываў заказчыка на ААТ «Красная звезда», 220073, г.Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3. Падпісаны ў друк у 15.00. Аб'ём 2 друк. аркушы. Тыраж: 27 570 экз. Заказ № 733.